**№103 (1666)**

Аўторак, 10 чэрвеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля


E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +19...+21, уначы — +10...+12; у Брэсце ўдзень — +22...+24, уначы — +12...+14; у Гродне ўдзень — +21...+23, уначы — +9...+11; у Віцебску ўдзень — +17...+19, уначы — +9...+11; у Гомелі ўдзень — +24...+26, уначы — +13...+15; у Магілёве ўдзень — +21...+23, уначы — +10...+12. Па краіне чакаецца сонечнае надвор'е, без ападкаў.

*www.meteo.by*



АДКРЫТЫ ДЫЯЛОГ

*Іосіф СЯРЭДЗІЧ:*

## «Выклікаю агонь на сябе...»

*Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар адзінай штодзённай незалежнай рэспубліканскай газеты «Народная воля» **Іосіф СЯРЭДЗІЧ** будзе весці адкрыты тэлефонны дыялог з чытачамі.*

**Хочаце ведаць пазіцыю рэдакцыі па тым ці іншым хвалюючым пытанні — калі ласка.**

**У вас праблема дзяржаўнага характару — давайце абмяркуем.**

**Хочаце падказаць журналістам "Народнай волі" новыя тэмы, цікавыя адрасы — будзем удзячны.**

**Ёсць жаданне проста параіцца, расказаць пра нешта асабістае — не саромцеся, размова можа быць самай-самай шчырай...**

Словам, заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар "Народнай волі" выклікае агонь на сябе.

У чацвер, **12 чэрвеня, з 15.00 да 18.00** вы зможаце выйсці па тэлефоне **206-68-71** на прамую сувязь з рэдакцыяй і пачуць: "У апарата — галоўны рэдактар...".

Калі раптам нехта не зможа датэлефанавацца, напішыце ліст з паметкай: **"ДЫЯЛОГ З ГАЛОЎНЫМ РЭДАКТАРАМ"**.

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

## З 2005 года ў Беларусі не будзе сваіх грошай?

*Прэс-служба Аляксандра Лукашэнкі паведамляе аб яго сустрэчы з намеснікам старшыні ўрада — міністрам фінансаў Расійскай Федэрацыі Аляксеем Кудрыным. На ёй было заяўлена, што практычна гатовы праект пагаднення аб увядзенні з 2005 года расійскага рубля ў якасці адзінага плацёжнага сродка на тэрыторыі саюзнай дзяржавы. Падрабязнасці і параметры дамовы не раскрываюцца, гаворыцца толькі, што паміж экспертамі Беларусі і Расіі "ёсць практычна поўнае разуменне адносна тэрмінаў і параметраў" пагаднення.*

Вядома таксама, што пытанні ўвядзення расійскага рубля абмеркаваны падчас нядаўняй тэлефоннай размовы прэзідэнта Расіі Пуціна з Лукашэнкам. Пасля чаго Беларусь тэрмінова наведаў фінансавы дэсант з Расіі. Разам з Кудрыным у Мінску пабываў старшыня Цэнтрабанка Расіі Сяргей Ігнацьеў.

### *Ці не згубіць Беларусь у выніку тых пагадненняў свой эканамічны суверэнітэт?*

Вось пытанне, якое не можа не хваляваць. Бо ўсё ідзе да ўвядзення расійскага рубля ў Беларусі.

Вядома, што ўласныя грошы — важнейшы атрыбут любой дзяржавы. Няма іх — няма і самастойнай краіны. Вы ведаеце якую-небудзь краіну без грошай? Літва, Украіна, Польшча, тая ж Расія — усе маюць свае фінансавыя інстытуты.

Могуць сказаць: а як жа Еўропа? Там жа ўведзены агульныя грошы — еўра. Вось іменна, агульныя, а не нямецкія маркі ці французскія франкі. У нас жа ўводзяцца не новыя беларуска-расійскія грошы, а расійскі рубель, чым эканамічна мы становімся па-сутнасці ў адзін шэраг са Смаленскай вобласцю ці Татарстанам.

Нашы суседзі імкнуцца ў Еўрапейскі Саюз, каб у перспектыве ўвесці ў сваіх краінах еўра. Іх зразумець няцяжка, бо еўра — гэта еўра, а не расійскі рубель. Спытайцеся ў нашых грамадзян, у якой валюце яны захоўваюць свае сберажэнні: у еўра ці расійскіх рублях? Ясна, што ў асноўным у еўра альбо доларах. Прывязка нашай краіны да расійскага рубля можа паставіць крыж на ўваходжанні краіны ў Еўрапейскі Саюз, а значыць — на яе будучыні. Чаму такое лёсавызначальнае пытанне вырашаецца кулуарна, у абыход народа?

**Андрэй СЯРГЕЕЎ.**

**На здымку:** *маладыя людзі падпальваюць расійскія грошы ў знак пратэсту супраць увядзення іх на тэрыторыі Беларусі падчас акцыі, якая адбылася ў Мінску 2 красавіка 2003 года.*

**Фота IREX/ProMedia.**

*Эдуард МАЛАФЕЕЎ:*

## «Я прыходжу да высновы, што, мабыць, не толькі я кірую камандай...»

*Як вядома, паражэннем з лікам 0:2 завяршыўся для нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе адборачны матч чэмпіянату Еўропы 2004 года супраць каманды Галандыі.*

У першым тайме гаспадары дэманстравалі змястоўны футбол і ні ў чым не саступалі знакамітаму саперніку. У другой палове сустрэчы, асабліва пасля двух мячоў, забітых з інтэрвалам у 7 хвілін Маркам Овермарсам, які выйшаў на замену, і Патрыкам Клюйвертам, беларуская каманда панікла і практычна не мела шанцаў нават "размачыць" лік.

На пасляматчавай прэс-канферэнцыі галоўны трэнер зборнай Беларусі **Эдуард МАЛАФЕЕЎ** даў жорсткую ацэнку гульні сваіх падапечных: "Я не магу зразумець, чаму такая розніца паміж першым і другім таймамі. Мабыць, ачкі патрэбны былі галандцам, і мы іх проста аддалі. У другім тайме абрынулася дысцыпліна. Мы маглі быць мацней толькі за кошт дысцыпліны. Я прыходжу да высновы, што, мабыць, не толькі я кірую камандай. Я якраз у перапынку гаварыў: хлопцы, яшчэ можна быць больш уважлівымі, сіл колькі пажадана ёсць. Усё адразу абвалілася. Я здзіўлены і не магу знайсці прычын. Буду іх "пытаць", можа, аб чымсьці даведаюся. Я не памыліўся са складам, а чаму не гулялі — мяне гэта хвалюе".

Наступны матч адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы зборная Беларусі правядзе 11 чэрвеня ў гасцях супраць футбалістаў Аўстрыі.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

## Путин не понимает юмора на тему третьего срока

*Российский президент неожиданно ответил на вопрос, который будоражит белорусское общество. Он высказался насчет третьего президентского срока. И высказался отрицательно.*

Тема возникла 5 июня на встрече Путина со студентами. "Двух сроков достаточно", — без колебаний отреагировал он на каверзный вопрос. Добавил, правда, что можно рассуждать, какой срок полномочий оптимален — четыре года или пять лет. Но уж никак не более. А потом вообще отрезал: "Для России на сегодняшний день это абсолютно неактуально, мы должны бережно относиться к Конституции, не должны менять ее по вкусу людей, которые находятся у власти".

Речь шла вроде как о внутренних российских делах. Но параллели напрашиваются сами собой.

Интересное совпадение: тоже студенты, только минские, задали подобный вопрос Александру Лукашенко, когда тот выступал 29 ноября прошлого года в Белорусском государственном экономическом университете. В отличие от педанта Путина — с его унылыми сентенциями на тему пиетета перед Основным законом — белорусский лидер был игрив и блеснул остроумием. Лукашенко заявил тогда, что, воспринимая аплодисменты аудитории как одобрение, непременно будет еще раз пытать счастья на выборах.

В общем, скучный человек этот Путин. Те, кто хорошо его знает, дружно твердят: юрист до мозга костей. Можно сказать, буквоед. Наверное, сам еще студентом затвердил латинскую максиму: пусть рухнет мир, но восторжествует закон.

То ли дело белорусские руководители. У нас этого занудства и в помине нет. В нашем благословенном царстве-государстве к нормам права подходят очень даже творчески. Мешает закон — так мы его декретом поправим так, что мама родная не узнает! А в 1996 году и вовсе Конституцию переписали. Скромно назвали новой редакцией. Народ потом только раскумекал, что по этому документу первый президентский срок тихо вырос на два с лишним года. Но все хорошее когда-нибудь кончается. Вот и второй срок первого президента неумолимо тает. И в прошлом году на одной из пресс-конференций Александр Лукашенко впервые выдал — осторожно, взвешивая каждое слово, — сокровенные мысли насчет своего политического долголетия.

Этот пассаж стоит напомнить, потому что сегодня кое-кто утверждает, что тему третьего срока генерировала зловредная оппозиция. Так давайте отдадим лавры настоящему автору. Вот что прозвучало из уст Лукашенко 17 сентября прошлого года: **"Нет ничего невозможного. Что касается моего переизбрания президентом... конечно, возможно. Возможно только в том случае, если у нас будет соответствующая норма в Конституции. А эта статья в Конституции, по-моему, под референдум подпадает. Значит, только через референдум, если будет с моей стороны принято такое решение. Только вы, только белорусский народ определит, может или не может, а потом, если это можно, изберет себе президента на третий срок".**

*— Конституцию нельзя менять по вкусу людей, которые находятся у власти..*

Вот откуда вылезла тема грядущего плебисцита. И с каждым днем эта перспектива кажется все более вероятной. Во всяком случае, нынешняя "зачистка" в сфере независимых СМИ и негосударственных организаций весьма похожа на подготовку к очередной "элегантной" электоральной победе.

Одна беда: не понимает Путин нашего юмора насчет третьего срока. Нет, было дело, однажды и он пошутил. Насчет мух и котлет. От этой его шуточки союзное строительство до сих пор в глубоком шоке. Вот и ежатся в Минске: а вдруг хозяин Кремля возьмет да и выдаст нечто столь же язвительное насчет планов продления полномочий белорусского коллеги?

Собственно, 5 июня Путин уже заметил с улыбкой студентам, что длительное пребывание у державного руля "мешает и политической деятельности, и цели, ради которой человек приходит к власти". Если сам Владимир Владимирович на третий срок явно не собирается, то кого, интересно, он имел в виду?

**Александр КЛАСКОВСКИЙ.**
*("Белорусские новости".)*

# ЗАЯВЛЕНИЕ

### члена президиума Совета ФПБ, председателя Белорусского профсоюза работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения (АСМ) Александра Бухвостова

29 мая 2003 года Президиум Совета ФПБ принял решение отозвать жалобу белорусских профсоюзов в Международную организацию труда по поводу нарушения прав профсоюзов в Беларуси.

Жалоба в МОТ была направлена в июне 2000 года. Инициатором жалобы стал профсоюз АСМ. Решение об обращении в МОТ в связи с нарушением в Беларуси Конвенций МОТ №87 и №98 принято на пленуме Совета профсоюза АСМ 16 мая 2000 года.

При подготовке жалобы к ней присоединились и приняли участие в формировании текста обращения Белорусский профсоюз радиоэлектронной промышленности, Белорусский профсоюз агропромышленного комплекса и Белорусский конгресс демократических профсоюзов. Позже президиум Совета ФПБ поддержал жалобу своим решением. Съезды профсоюзов АСМ и РЭП в сентябре 2000 года утвердили решения Советов профсоюзов об обращении в МОТ и текст жалобы.

Президиум Совета ФПБ не может отозвать жалобу, это не в его компетенции. Президиум может отозвать письмо, в котором изложено его решение о поддержке жалобы.

В связи с тем, что я отсутствовал на заседании президиума Совета ФПБ 29 мая 2003 года по причине командировки и не принимал участия в голосовании по данному вопросу, считаю необходимым высказать следующее:

1. Я категорически против решения президиума Совета ФПБ об отзыве письма в МОТ о поддержке жалобы четырех профсоюзных объединений по поводу нарушения прав профсоюзов в Беларуси.

2. Считаю, что практически ни одна из рекомендаций МОТ по делу №2090 и устранению нарушений Конвенций МОТ №87 и №98 в Беларуси не выполнена. В то же время положение с правами трудящихся, правами профсоюзов на самостоятельную и независимую деятельность от власти, администрации значительно ухудшилось даже по сравнению с 2000—2001 годами. Идет сращивание профсоюзов с государственной политической властью.

К сожалению, руководство ФПБ действует совместно с органами государственного управления по ликвидации независимых профсоюзных структур. Газета "Белорусский час", выступления председателя ФПБ полны небылиц и лжи, направленных на дискредитацию лидеров неугодных профсоюзов.

Сохраняется и усиливается вмешательство государственных властей во внутренние дела профсоюзов и профсоюзных организаций. Об этом говорит и факт создания профсоюза промышленности на основе региональных и местных профсоюзов предприятий, где под нажимом и давлением администрации предприятий в 2002 году большинство работников вышли из отраслевых профсоюзов, входящих в ФПБ. Оставшимся членам отраслевых профсоюзов, объединенным в первичные организации, администрацией предприятий создавались и создаются преграды для их нормальной деятельности, что также противоречит Конвенциям МОТ.

Объединяться или разъединяться на добровольной основе профсоюзы всех видов имеют полное право. Но создание профсоюза промышленности происходило и происходит под контролем ФПБ и Министерства промышленности. В адрес руководителей предприятий и профкомов первичных организаций других профсоюзов поступили телефонограммы из Министерства промышленности с настойчивым приглашением принять участие в объединительном съезде профсоюза промышленности.

В последующих выступлениях руководителей ФПБ провозглашается задача включить в профсоюз промышленности первичные организации других профсоюзов. Просматривается угроза использования в этом деле административного ресурса для насильственного вовлечения работников других предприятий и членов других профсоюзов в профсоюз промышленности.

В белорусских СМИ эти действия обсуждаются как шаги по реализации указания президента Лукашенко, которое он дал 27 марта 2003 года на идеологическом совещании министру промышленности А.Д. Харлапу по отстранению от должностей лидеров Белорусского профсоюза работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения и Белорусского профсоюза работников радиоэлектронной промышленности.

Подобные действия ни в коей мере не отвечают принципу свободы объединений, провозглашенному Всемирной декларацией прав человека, и противоречат ратифицированным Беларусью Конвенциям №87 и №98 Международной организации труда.

Можно привести еще много фактов, подтверждающих, что профсоюзные права в Беларуси, как они понимаются Международной организацией труда, грубо нарушаются. Практически в Беларуси руководство республики стремится превратить профсоюзное движение в инструмент для достижения своих политических целей, что противоречит принципу, выраженному Международной конфедерацией труда в резолюции о независимости профсоюзного движения.

3. Президиум Совета ФПБ должен добиваться выполнения рекомендаций МОТ по делу № 2090 о нарушении прав профсоюзов в Беларуси, утверждать международные принципы и стандарты отношений профсоюзов, организаций работодателей и правительства, а не способствовать превращению профсоюзов в придаток государственной власти, организацию контроля за рабочими, а не защиты их социальных и экономических интересов.

Следует созвать пленум Совета ФПБ, на котором обсудить создавшееся положение и начать дискуссию во всех профсоюзах и первичных организациях, каким должно быть профсоюзное движение в Беларуси и роль Федерации профсоюзов Беларуси в улучшении экономического и социального положения трудящихся в республике.

Считаю, что только сильные, свободные и независимые профсоюзы, объединенные в независимый от власти профсоюзный центр, смогут реально повлиять на экономическую и социальную ситуацию в государстве и улучшить жизнь трудящихся. Так было во всем мире, так будет у нас в Беларуси.

**Фото IREX/ProMedia.**

КАНФЛІКТ

## «Я хачу прыходзіць у НАШ ліцэй...»

*Лёс папулярнай навучальнай установы павіс у паветры*

Учора, у панядзелак, прыступкі Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа нагадвалі вулей. Абітурыенты, выпускнікі 7-х класаў розных школ Мінска, сярод якіх назіралася і дачка вядомага дэпутата Сяргея Скрабца Наташа, здавалі беларускую літаратуру. Вучні стаялі ў чарзе, хваляваліся, нешта перачытвалі. Усё, як звычайна...

Незвычайнае чакае тых, хто паспяхова здасць усе іспыты і стане, нарэшце, ліцэістам. Сёння невядома, хто будзе выкладаць у ліцэі ў будучым — папулярныя зараз Ірына Сідарэнка, Лявон Баршчэўскі, Міхась Тычына і іншыя, альбо стаўленікі Міністэрства адукацыі. Стваральнік і цяперашні кіраўнік ліцэя Уладзімір Колас не выключае вяртання ліцэю статуса недзяржаўнай навучальнай установы. У любым выпадку канфлікт ліцэістаў з Міністэрствам адукацыі далёкі ад вырашэння.

Напрыканцы мінулага тыдня Уладзімір Колас с двума намеснікамі сустрэўся з намеснікам міністра адукацыі Казімірам Фарыно. Але сустрэча, на жаль, ніякага плёну не дала. Міністэрства адмаўляецца мяняць сваё рашэнне аб прызначэнні на пасаду дырэктара ліцэя Тамары Шчарбацэвіч, усе прапановы Коласа ў міністэрстве не прымаюць і свайго нічога не прапануюць. Дарэчы, у панядзелак новая дырэктарка ў сваім кабінеце адсутнічала. Ліцэісты кажуць, што яе адправілі да 20 чэрвеня вывучаць беларускую мову, таму што яна роднай мовай "валодае з цяжкасцю".

Зараз, расчараваўшыся ў незразумелай пазіцыі Міністэрства адукацыі, бацькі ліцэістаў падрыхтавалі звароты да А. Лукашэнкі і ва ўсе грамадскія арганізацыі, а таксама вырашылі ў будучым "ладзіць вулічныя акцыі, выкарыстоўваць усе сродкі для абароны ліцэя".

Агульны настрой навучэнцаў, які пануе зараз у ліцэі, адлюстроўвае, на наш погляд, ліст адной з выпускніц, з фрагментамі якога мы знаёмім чытачоў "Народнай волі":

*"Баліць так, што не можаш заснуць уначы, што хочацца проста рабіць што-небудзь дзеля таго, каб яшчэ хоць адно пакаленне ліцэістаў здолела праспяваць сваю выпускную песню, стоячы на сцэне актавай залы яшчэ НАШАГА ліцэя, каб яшчэ адно пакаленне ліцэістаў пачула ў сумны дзень апошняга званка цёплыя словы НАШАГА дырэктара. Каб яшчэ якія паўсотні дзяцей маглі атрымаць сярэднюю адукацыю на НАШАЙ мове...*

*Ліцэйскія гады сталі для мяне вырашальнымі ў нялёгкім працэсе пошуку сябе як асобы. І я магу шчыра сказаць, што нідзе мне б не далі лепшай падтрымкі, лепшых дарадчыкаў, лепшых сяброў. Дзякуй ліцэю: ён выгадаваў нас. Але за намі — малодшыя курсы і тыя, хто марыць тут вучыцца. Мы не эгаісты, таму проста хочацца, каб яшчэ як мага больш дзяцей сталі шчаслівымі.*

*Дык не дамо зрабіць наш ліцэй ардынарнай навучальнай установай! Сцены застануцца ў любым выпадку. Але тое, што мы называем ліцэем, — гэта жывыя людзі — выкладчыкі, бацькі і навучэнцы, гэта жывыя думкі на ўроках без школьнай стандартнасці, гэта размовы на перапынках, не абмежаваныя артыкуламі ў "інцырэсным" расійскім часопісе для моладзі...*

*Мы сыходзім, але мы будзем змагацца разам з усімі, бо так ужо закладзена ў прыродзе чалавека — бараніць тое, што ён любіць".*

Шчыра кажучы, цяжка знайсці зразумелыя матывы барацьбы Міністэрства адукацыі з У. Коласам і выкладчыкамі. Няўжо нельга пакінуць іх, у рэшце рэшт, у спакоі? Тыя, хто дэкларуе сёння ў высокіх дзяржаўных кабінетах сваю адданасць дэмакратыі і прынцыпам рынкавай эканомікі, фактычна парушаюць асноўны прынцып маркетынгу — даць спажыўцам тое, чаго яны хочуць. Хочуць хлопцы і дзяўчыны навучацца ў Коласа і Баршчэўскага — няхай навучаюцца! Навошта дасылаць у ліцэй людзей, якіх там не паважаюць, якім не хочуць падпарадкоўвацца?

Засмучае, відаць, дзяржаву тое, што наўрад ці паплыве заснавальнік і паважаны ў ліцэі Уладзімір Колас, чалавек з дэмакратычнымі поглядамі, па хвалі новай дзяржаўнай ідэалогіі, наўрад ці будзе прыслухоўвацца да парад якога-небудзь засланца-камісара. А таму і трэба, мусіць, паставіць чалавека свайго, больш згаворлівага.

Толькі каму будзе ад гэтага лепш?

**Алесь СІЛІЧ.**

ТРАГЕДИЯ

# «Мама, приедь, мне больно...»

*В 2002 году "Народная воля" (№№ 171, 195, 200) рассказала о нелегкой судьбе юной минчанки Лены Шавлюк.*



"Дитя не в радость", "Девочка, никому не нужная"... В этих заглавиях — суть прошлогодних публикаций: в шестнадцать лет Лена в отчем доме стала персоной "нон грата". Мама, измотанная 12-ю годами ухаживаний за прикованной к инвалидной коляске дочерью, возненавидела свою кровинушку. Защитить себя сама в силу своего физического состояния Лена не могла. А отец... Отец, как тот старик из сказки "О рыбаке и рыбке", перечить разгневанной "старухе" не смел.

К сожалению, механизм, способный заставить полюбить, человечество пока еще не изобрело. Поскольку дальнейшее совместное проживание несовершеннолетней девушки-инвалида с матерью порождало для государства массу проблем, Министерство образования направило ребенка в школу-интернат. Так в ноябре прошлого года минчанка Лена Шавлюк стала жительницей городского поселка Ивенец Минской области.

Подготовкой документов и отправкой сироты при живых родителях занимались посторонние люди. Мама и папа отказались даже спуститься на лифте с восьмого этажа, чтобы перед дорогой пожелать дочери счастливого пути...

По всей видимости, пожелали несчастья. Через два месяца на ногах девочки появились первичные признаки гангрены. В конце февраля Лену госпитализировали в Воложинскую районную больницу. Там, в больничной палате, под палящим солнцем (на окнах не было ни гардин, ни штор), под аккомпанемент собственных стонов от боли в распухших ногах, встретила девушка 17-летие.

В условиях отсутствия даже шприцев, не говоря уже о диагностическом оборудовании и современных медикаментозных средствах, районные врачи оказались бессильны. Перебрасывали из отделения в отделение: терапевтическое, инфекционное, хирургическое. От одного врача к другому.

В Боровлянскую областную клинику, да и то лишь после личного вмешательства Аллы Коноплевой — начальника управления Министерства образования девушку доставили в первых числах апреля. Похоже, время безнадежно было упущено, и единственным средством спасения жизни оставалось оперативное вмешательство: 22 апреля Лене ампутировали левую ногу, 15 мая — правую.

Поскольку Лена Шавлюк несовершеннолетняя, операцию такого рода врачи имеют право делать только с письменного согласия родителей. Мама ни в районной, ни в областной больнице так и не появилась. Ни до ампутации, ни после нее. Разрешение на операцию давал папа. Да и того пришлось доставлять чуть ли не силой.

Сейчас Лена практически беспомощна. На руки особенно не обопрешься: кости и суставы очень хрупкие. Необходима коляска с электроприводом. Требуется постоянный уход. Соседи по палате были свидетелями того, как девушка звонила матери: "Мама, приедь, мне больно! Ну чем я тебя обидела?". Со слов Лены, мама ответила: "Я за тобой ухаживать не буду".

Насильно любить никто и не заставляет. Однако отказать в помощи страждущему все же не по-христиански.

**Валерий ЩУКИН.**

**На снимке:** *Лена Шавлюк в Ивенецком доме-интернате на встрече Нового года.*

# Лучшие умы Беларуси «утекают» на Запад

*Обедневшие ученые уезжают в Западную Европу и Америку в поисках хорошо оплачиваемой работы.*

С тех пор как Виктор К. переехал в США, он получает зарплату 80.000 долларов США. Он купил дом и машину и ведет образ жизни, о котором не мог и мечтать, будучи старшим научным сотрудником в Беларуси.

Должность старшего научного сотрудника в Институте математики в Минске приносила Виктору 120 долларов в месяц. Чтобы его семья могла сводить концы с концами, приходилось заниматься репетиторством. Ютясь с женой и десятилетней дочерью в крохотной комнате общежития, Виктор не имел перспектив получить квартиру.

Но в жизни Виктора произошел крутой поворот, когда американские математики обратили внимание на его публикации в международном журнале и предложили ему вначале временную, а потом и постоянную работу в Госуниверситете Сан Хосе в Калифорнии.

"Я уехал из страны только по финансовым причинам", признался Виктор корреспонденту. "На мою зарплату научного сотрудника даже прокормить семью было невозможно, не говоря уже об отпуске, покупке мебели. Теперь общежитие в Минске вспоминаю, как страшный сон".

Возвращаться работать в Минск Виктор не собирается.

История этого молодого специалиста похожа на истории все растущего числа белорусских ученых и преподавателей, которые уезжают из страны в надежде на лучшую зарплату и условия работы.

Беларусь всегда славилась подготовкой ученых высокого уровня. Раньше они работали на советскую оборонную промышленность или в престижных научных программах.

"Занятия наукой дают мне возможность написать в резюме, что работал в Национальной Академии наук", — сказал Глеб Рубанов, аспирант Института физики. — "Это в определенных кругах работодателей и в Беларуси, и за рубежом котируется очень высоко. И надеюсь, что мои шансы получить приличную работу или высокооплачиваемые заказы возрастут".

Ученые все еще имеют возможность приобрести пользующиеся спросом навыки, хотя теперь их больше ценят за границей, чем дома. И потому белорусские математики, программисты, электронщики, физики и химики повально уезжают в американские, европейские и азиатские институты.

Утечка умов достигла такого уровня, когда правительство серьезно обеспокоилось этим явлением.

По словам первого заместителя председателя Государственного комитета Республики Беларусь по науке и технологиям Владимира Недилько, ежегодно на постоянное место жительства из Беларуси только из Национальной Академии наук уезжают примерно 70 сотрудников, имеющих степень доктора или кандидата наук. Большинство из них — это молодые и наиболее перспективные ученые.

Похоже, еще большее количество ученых покидает страну по временным контрактам, но маловероятно, что они вернутся.

Источник в государственном Институте социологии сообщил корреспонденту: недавнее исследование показало, что за последние десять лет работать за границу уехало около 1500 человек, имеющих степень кандидата наук или выше. Из 17.000 все еще работающих в Беларуси 70% хотят поехать за рубеж на постоянную или временную работу.

Руководитель Центра мониторинга миграции научных и научно-педагогических кадров Института социологии НАНБ Михаил Артюхин предсказывает, что эта тенденция сохранится. По его словам, интеллектуальная миграция из Беларуси будет продолжаться еще долгие годы. Ведь сохраняются причины, которые ее вызывают: низкая зарплата, недостаточная материально-техническая база для проведения научных исследований, недооценка обществом роли работников интеллектуального труда.

Зарплаты настолько низкие, что многие ученые-исследователи не видят другого выхода, как уехать.

"Мне очень жаль уезжать, — говорит Михаил, аспирант-физик, которому германская компания предложила работу. — Но в Германии мне обещали создать все условия для проведения исследований, а также платить приличную зарплату".

Условия жизни Михаила в Минске несравнимы с теми, которые ему предложили. В Минске аспиранту Института тепло- и массообмена даже не предоставили общежития, а снять комнату он просто не мог себе позволить на крошечную аспирантскую стипендию. Парень поселился в подсобном помещении института, спал, можно сказать, на полу.

"Я действительно хочу заниматься наукой. И я не избалован, могу переносить трудности. Но жить в таких условиях в институте, без элементарных удобств, невыносимо".

Для других ученых зарплата не является основной проблемой, хотя она и низкая. Многим пришлось искать возможности за рубежом, потому что научные приборы совсем неподходящие. Большая часть научного оборудования абсолютно устарела.

В этом кроется основная причина для Светланы, белорусского химика-исследователя, которая сейчас трудится в Гетебургском университете в Швеции. Планов возвращаться обратно у нее нет.

"Дело не в зарплате. Она здесь выше, но и расходов тоже намного больше, — рассказала она. — В Минске постоянно не хватало химреактивов для исследований, в моей лаборатории было устаревшее оборудование, на новое средств не выделяли. И я чувствовала свою беспомощность: не могла расти как ученый и совершенствоваться. В Швеции условия для работы совсем иные. Здесь есть все".

Главный ученый секретарь Национальной Академии наук профессор Владимир Тарасевич считает, что ситуация кризисная. "Беларусь, несомненно, очень много теряет", — считает он, — единственный выход — это принятие правительством срочных мер для улучшения положения дел в научном сообществе". Необходимо создавать ученым достойные условия для работы здесь, — сказал он. — Если специалистам предоставить нормальную зарплату (хотя бы порядка 400—500 долларов в месяц), лабораторию, современное оборудование, реактивы — специалисты вряд ли будут уезжать за рубеж".

*Вот уже несколько лет академик Владимир Платонов читает лекции по всему миру, хотя и поныне мог бы быть президентом Национальной Академии наук Республики Беларусь.*

Но начальник Тарасевича президент Национальной Академии наук Беларуси Михаил Мясникович имеет иной подход к проблеме. Выступая прошлой осенью, он заявил, что Запад должен платить Беларуси и научным институтам страны компенсацию за, по его словам, "искусственное стимулирование эмиграции ученых в западные страны".

Представления Мясниковича о том, как должен функционировать международный рынок труда, вряд ли увенчаются большим успехом, и, похоже, экспорт из Беларуси научного знания продолжится до тех пор, пока возможности, предложенные ученым в родной стране, будут оставаться ограниченными.

Степень разочарования ученых показывает тот факт, что многие предпочитают найти случайную работу после окончания временного контракта за границей, лишь бы не ехать обратно домой. Один белорусский доктор наук до сих пор работает таксистом в Гамбурге.

**Инна СТУДИНСКАЯ.**
**Фото БелТА.**

ПРЭМ'ЕРА

# «Хаваншчына», якую чакалі

Падобных прэм'ер у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы не было ўжо вельмі даўно. "Хаваншчына" М.Мусаргскага ў пастаноўцы **Маргарыты Ізворска-Елізар'евай** задаволіла, здаецца, нават самых прыдзірлівых крытыкаў і знаўцаў.

Рэжысёр да дробязяў прадумала канцэптуальнае вырашэнне спектакля, але разам з тым не стала надакучлівым праваднікам сваіх ідэй. Тым і каштоўная гэтая пастаноўка: яна прымушае думаць, разважаць, шукаць паралелі з рэчаіснасцю. Бо і цяпер застаюцца актуальнымі пытанні веры, суадносін народа і ўлады, дабра і зла, маральнага выбару, перад якім стаяць героі оперы.

"Хаваншчына" зроблена з вялікім клопатам і любоўю — да творчай спадчыны Мусаргскага, да публікі, да спевакоў-акцёраў. Бадай, у гэтым і ўтрымліваецца галоўны вынік працы пастаноўшчыкаў спектакля.

У оперы задзейнічана некалькі пакаленняў акцёраў. Прыемна бачыць на сцэне моладзь, якой рэжысёр даверыла вядучыя партыі і якая вельмі імкнецца апраўдаць гэты высокі давер (**Аксана Якушэвіч і Эльвіра Рыжановіч** у ролі Марфы, **Настасся Масквіна** ў ролі Эмы, **Януш Нэлепа** ў партыі Андрэя Хаванскага). Поспехам стала выступленне **Сяргея Франкоўскага** і **Васіля Мінгалёва** ў партыі князя Галіцына. А вось зоркамі першай велічыні, якія ззяюць у "Хаваншчыне", ярчэй за іншых аказаліся **Алег Мельнікаў** (Іван Хаванскі), **Васіль Кавальчук** (раскольнік Дасіфей) і **Уладзімір Пятроў** (баярын Шаклавіты). Яны дасягнулі такіх вышынь майстэрства, што пакарылі і ўзрушылі публіку.

"Хаваншчына" магла б з'явіцца на сцэне беларускай оперы яшчэ дзевяць гадоў таму. Менавіта ў 1994 годзе М.Ізворска вымушана была пайсці з тэатра, у якім адбылася як рэжысёр і дзе паставіла выдатныя спектаклі "Дон Карлас", "Севільскі цырульнік", "Чароўная флейта", "Тоска", "Кацярына Ізмайлава". Многія з гэтых пастановак дагэтуль упрыгожваюць рэпертуарную афішу тэатра. Дарэчы, за грунтоўныя рэжысёрскія работы М.Ізворска на пачатку 1990-х гадоў атрымала званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Чамусьці пра гэта забываюцца тыя, хто пасля прызначэння М.Ізворска-Елізар'евай мастацкім кіраўніком беларускай оперы, з задавальненнем "адцягваецца" на тэме *"сямейнага тэатра Елізар'евых"*. На мой погляд, па маштабе даравання М.Ізворска стаіць упоравень са сваім знакамітым мужам — **Валянцінам Елізар'евым.** Толькі яе стыхія — оперная рэжысура. Як рэжысёр яна прастойвала доўгія дзевяць гадоў! Недаравальна шмат для такога майстра, калі ўлічыць, колькі бездапаможных і адкрыта халтурных спектакляў з'явілася за гэты час на сцэне Беларускага опернага тэатра... Вярнуўшыся, Маргарыта Ізворска пастаноўкай "Хаваншчыны" зноў пацвердзіла найвышэйшы ўзровень свайго прафесійнага майстэрства.

**Вольга БРЫЛОН.**
**Фота Аляксандра ДЗМІТРЫЕВА.**

ПУЛЬС

## Больш за 450 беларусаў узялі ўдзел у праграме Дзярждэпартамента ЗША «Грамадскія сувязі»

Штогадовая сустрэча выпускнікоў праграмы "Грамадскія сувязі" адбылася ў Мінску 6 чэрвеня.

Праграма фінансуецца Дзяржаўным дэпартаментам ЗША і праводзіцца ў Беларусі прадстаўніцтвам IREX (Савет па міжнародных даследаваннях і абменах) з 1997 года, паведаміў, адкрываючы мерапрыемства, пасол ЗША ў Беларусі Майкл Козак. Правобразам яе стала праграма "Бізнес для Расіі", якая пачалася ў 1994 годзе і аказалася настолькі паспяховай, што было прынята рашэнне праводзіць такую праграму ў іншых краінах былога СССР, папярэдне перайменаваўшы яе ў "Грамадскія сувязі". Цяпер праграма рэалізуецца ў Расіі, Арменіі, Азербайджане, Беларусі, Грузіі, Казахстане, Кыргызстане, Малдове, ва Украіне і Узбекістане.

Паводле слоў М.Козака, адным з асноўных кірункаў праграмы з'яўляецца малы бізнес; апрача гэтага фінансуюцца стажыроўкі ў іншых прафесійных сферах. У прыватнасці, у 2002 годзе для Беларусі былі вызначаны такія сферы, як ахова здароўя, сярэдняя школьная адукацыя, тэле- і радыёжурналістыка. Летась удзел у праграме ўзялі больш за 120 беларусаў, а за шэсць гадоў — больш за 450.

Фіналістам праграмы прадастаўляецца магчымасць паехаць на кароткатэрміновую стажыроўку ў ЗША. Пры гэтым удзельнікі жывуць у амерыканскіх сем'ях і, такім чынам, апрача набыцця прафесійнага вопыту маюць магчымасць азнаёміцца і з амерыканскай культурай, зазначыў М.Козак. Ён выказаў спадзяванне, што амерыканскі вопыт дапаможа ўдзельнікам праграмы ўнесці свой уклад у працэс дэмакратызацыі Беларусі.

**Вольга ЛАПІКАВА, БелаПАН.**

## Лепшыя будаўнікі — у Салігорску

Амаль 1,2 мільярда рублёў прыбытку атрымаў за пяць месяцаў гэтага года калектыў ААТ "Салігорскпрамбуд", зрабіўшы нядрэнны падарунак да свайго 45-годдзя, якое будзе адзначацца 9 чэрвеня. Лепш за ўсіх сваіх калег у рэспубліцы ён выглядае і па іншых найважнейшых паказчыках: аб'ём падрадных работ павялічаны на 6,3 працэнта, рэнтабельнасць вытворчасці ўзнялася да 7,1 працэнта пры нулявой у сярэднім па будаўнічых фірмах краіны.

Будаўнікі шахцёрскага горада праславіліся выдатнай працай не толькі ў родных месцах, але і ў Мінску, іншых рэгіёнах рэспублікі, у Цюменскай вобласці, Нечарназем'і, Кіславодску. Менавіта ім кіраўніцтва краіны даверыла аднаўленне пасля нядаўняга пажару ў Нясвіжскім замку. Летась замест запланаваных 15 аб'ектаў яны здалі ў эксплуатацыю 20. У тым ліку 15,5 тысячы квадратных метраў жылля, што на 10 працэнтаў больш за ўзровень мінулага года.

Нядзіўна, што добрыя справы салігорскіх будаўнікоў не засталіся незаўважанымі іх еўрапейскімі калегамі: на пачатку года калектыў атрымаў сертыфікат, які пацвярджае, што якасць яго работ адказвае патрабаванням міжнароднага стандарту.

**Ларыса НАСАНОВІЧ.**

## У Маскве і Маскоўскай вобласці будуць выпускаць беларускія рэнтгенаўскія апараты

Нізкадозныя рэнтгенаўскія апараты "Уніскан" і "Пульмаскан", канструкцыі якіх распрацаваны спецыялістамі беларускага інавацыйнага прадпрыемства "Адані", хутка будуць выпускаць у Маскве і Падмаскоўі, паведаміла прэс-служба пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі. Папярэдняя дамоўленасць аб гэтым дасягнута падчас візіту мэра расійскай сталіцы Юрыя Лужкова ў Мінск, які адбыўся ў сярэдзіне мая. Тады ж прапанова аб сумеснай вытворчасці медыцынскай тэхнікі была ўключана ў праграму супрацоўніцтва паміж Беларуссю і расійскай сталіцай.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Атруцілі кароў

13 кароў калгаса "Наша Перамога" Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці загінулі пасля выхаду на пашу. Паводле папярэдняй інфармацыі, прычынай смерці стала атручанне жывёлы мінеральнымі ўгнаеннямі.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

СЛЫШАЛИ?

## Иван Титенков приблизился к Беларуси

После президентских выборов 2001 года о бывшем руководителе Управления делами президента Республики Беларусь Иване Ивановиче Титенкове почему-то перестали вспоминать. А он, как и раньше, занимается любимым делом, в котором открылось его истинное призвание, — бизнесом.

Сейчас Иван Титенков имеет свое предприятие в Смоленской области. В сфере его интересов — лес и изделия из него. Мебель, которую начали делать на границе с Беларусью, быстро получила признание за рубежом, особенно в Германии.

Напомним, что Иван Титенков, после того как неожиданно ушел с должности руководителя Управделами президента Беларуси, отправился в Москву. Одно время он работал в известной компании "Итера". Однако, по сведениям из неофициальных источников, у него возникли расхождения с руководителем "Итеры" Игорем Макаровым — последний продолжал поддерживать Александра Лукашенко, с которым Титенкова уже мало что связывало. Кончилось тем, что Иван Иванович написал заявление об уходе, а Макаров выплатил своему подчиненному энную сумму отступных.

И вот Иван Титенков вновь напомнил о себе. Кстати, утверждают, что во время подготовки к президентской кампании 2001 года Александр Лукашенко предлагал Ивану Титенкову возглавить его избирательную кампанию. Титенков отказался, порекомендовав поручить это дело Виктору Шейману. Как известно, Александр Лукашенко тогда остановил свой выбор на другом человеке — Николае Чергинце.

**Владимир ГЛОД.**

## Едешь к теще на блины — пробивай талончик

Кому, скажите, доводилось видеть, чтобы милиционер в форме, сопровождающий жену на рынок, пробивал талончик? Никому. А кому, скажите, доводилось видеть, чтобы контролер, направляющийся к теще на блины, на входе в салон общественного транспорта предъявлял проездной? Никому.

Кто объяснит, почему машинисты метро в нерабочее время едут бесплатно, а, скажем, машинист, обслуживающий генератор на электростанции, за пользование электричеством в квартире платит?

Платит за газ и машинист, обслуживающий компрессор на газоперекачивающей станции.

Какая-то странная у нас льготная система. Если уж руководство метрополитена, а равно и наземного транспорта, желает облагодетельствовать своих работников бесплатным проездом, так пусть приобретет и выдаст проездные. Профинансируют бесплатный проезд своим работникам из прибыли предприятия, а не из кармана остальных пассажиров, которые вследствие этого вынуждены оплачивать стоимость проезда "за себя и за того парня". То же касается и милиции. Пусть МВД закупает за счет бюджетных ассигнований проездные и распределяет тем, кому они необходимы по роду деятельности. А не всем подряд.

**Валерий ЩУКИН, правозащитник.**

# Мікола Статкевіч ідзе ў прэзідэнты?

***Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) мае намер вылучыць свайго кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.***

Штуршком да гэтага стала падрыхтоўка да парламенцкіх выбараў, якія павінны адбыцца восенню 2004 года. Але парламенцкія выбары для БСДП (НГ) будуць толькі часткай іншай кампаніі — прэзідэнцкіх выбараў.

Кіраўнік партыі Мікола Статкевіч гаворыць, што "зараз у арганізацыях партыі ідзе абмеркаванне такой стратэгіі. Мы рыхтуемся да выбараў у Палату прадстаўнікоў, але выдатна ведаем, што будзе на тых выбарах. За год сітуацыя не зменіцца. Трэба будзе абраць 110 дэпутатаў, а 110 акруг — гэта нават не паўтары тысячы, і таму ўсе яны будуць кантраляваца ўладай. Зыходзячы з гэтага мы бачым нашу стратэгію ў тым, што парламенцкая кампанія становіцца часткай прэзідэнцкай".

Мікола Статкевіч гаворыць, што партыя ўжо зараз павінна вызначыцца з тым, каго яна падтрымае на прэзідэнцкіх выбарах. "У нас ёсць сумны вопыт падтрымкі беспартыйных кандыдатаў, — працягвае лідэр БСДП (НГ). — Яны не маюць пэўнага вопыту, у іх штабах шмат выпадковых людзей, яны не выконваюць сваіх абавязацельстваў. Не дай Бог, яшчэ абяром чалавека, які не мае вопыту ўнутрыпартыйнай дэмакратыі, які не прывязаны да пэўнай праграмы".

На маё пытанне аб праграме кандыдата ў прэзідэнты ад Народнай Грамады Мікола Статкевіч паведаміў: "Нашай партыі ёсць што прапанаваць. Мы хочам прапанаваць Беларусі шлях у Еўрапейскі Саюз, і мы маем магчымасці гэты шлях рэалізоўваць, улічваючы наш еўрапейскі аўтарытэт. І мы прапануем таксама чалавека, які ўзяў бы на сябе, і партыя разам з ім, адказнасць за рэалізацыю гэтага плана. Карацей кажучы, мы ў бліжэйшы час, мабыць, заявім, што партыя вылучыць на наступных выбарах свайго кандыдата. І гэта будзе старшыня партыі".

**Уладзімір ГЛОД.**
**Фота IREX/ProMedia.**

